# 7

......

дарогаю быць цяжка
асабліва ў тым месцы
дзе намаляваная зебра
там
        гАрызанТАль
і

ВЭртыкаль

зводзяць людзей і машыны
часам жывёл
сабакаў і галубоў
і ровары – новыя за некалькі сотняў баксаў
і тыя што засталіся ў спадчыну ад кагосьці з 1930-х гадоў нараджэньня

як малая была
часта блытала гарызанталь і вэртыкаль
і кожны раз прамаўляючы словы гэтыя
ўяўляла сабе гарызонт

гарызонт гэта такая рыса на даляглядзе
за якой вось-вось мусіць узьнікнуць мора
і зьнікнуць я
дарога

# 8

я цалую вецер з разьбегу
на дэсэрт замаўляю дзень з карамельлю
ну і што што зьбіралася ўзяцца шлюбам я зь ценем
мне і ценю твайго было б дастаткова
проста мова твая
ня мела формаў у будучым часе
так я і засталася
у нейкім там плюсквампэрфэкце

## 9

------

ты дзесьці далёка
далёка ад мяне
гэта не папрок
гэта проста словы
якімі хачу сказаць
пра тое што ты далёка
калі здаецца быў ужо так побач
і так са мной

шчырасьць як высьветлілася ня робіць нікога шчасьлівым
яна робіць цябе шчырай і праз тое слабой
я пішу пра сябе
і ты не падумай
што папракаю ці абражаю ці пакрыўдзіць хачу
не

я хачу (хоць прычым тут маё хаценьне)
каб калі ты ляжаў на траве і думаў пра вечнасьць
гледзячы на шэра-блакітнае неба
усьміхнуўся б
двума куточкамі вуснаў
і быў такім якім ты палічыш патрэбным
далёкім ці блізкім
травою ці небам
слабым ці моцным

але гэта
толькі словы і можна зь імі рабіць што заўгодна
крыўдзіцца
                    радавацца
                                        не заўважаць
ці вывучыць іх на памяць

і калі ты чытаеш – я ёсьць толькі словы
за якімі стаіць ня нейкі сэнс
а ўсяго толькі
адзін
звычайны чалавек
якіх болей няма
і якіх так шмат

**паэма “мэтро”**

1.

гэты        сьвет        падаўся        мне        незнаёмым

у вагоне мэтро я адчула сябе

падазроным        *бясхозным*        прадметам

яшчэ хвіліна і належныя ворганы

мяне абясшкодзяць
зробяць замеры
правядуць пару тэстаў

а потым
прымусяць прызнацца каму я належу

каму        я        належу

мэтро?
ворганам?
гэтаму сьвету?

2.

прадвызначанасьць маршруту не пакідае шанцаў
нам на сустрэчу
як ліставаньне не дае зразумець што кватарант зьехаў
з кожным прамоўленым гукам
адбываецца хваля
што гарадоў дасягае
але не мяняе
мяне

3.

там пад зямлёю
рыхтую сябе да падману
цягнікі і вагоны – быццам вандроўку мне абяцаюць
я пагаджаюся
на паралельнае назіраньне
іхняга існаваньня

4.

калі адразу пасьля бога
патэле-
фанавала я
ты быў у недасяжнай хвалі
што паглынала галасавыя зьвязкі
вяртаючы сухія пошчакі
гартанных гукаў

# 13

схаваная пад кронай твайго сэрца
сасьню жанчыну
і сябе
у ложку
так падсьвядомасьць ставіць мне падножку
і я лячу ў абдымкі вусякоў
якіх сьніш ты

пакуль маўчаць далоні
маўчыць і зьвер

у кроне майго сэрца крумкачы
плятуць вяроўку
ад геліяса што прыняў цябе ў абдымкі
да пахаванай ў кронасе мяне

## 14

і ты крычыш і я крычу
і дождж спрабуе паміж намі
сказаць пра штосьці
але пра што...

я ўхапілася за струны чужой душы
ня ведаючы правілаў бясьпекі
цяпер выцягваю кавалкі дроту
з пальцаў
высмоктваю праблему
ты кажаш язык мой вораг
бярэ ў палон і здраджвае то адной то іншай
навошта сем разоў адмерваць
адрэжу так,
у рэстарацыі мне за яго заплацяць добра
або на цьвінтары пужаць я стану
пасьледкаў
разяўленым сваім пустым іртом
крычаць
ніхто ня хоча быць самотным ў пары
і языком па запатнелым люстры
тваёй душы я выведу сябе на чысьціню
цябе пакінуўшы ў брудзе
ты плачаш і мне спакойна
калі ж заплачу я – даданы часу або пытаньне
аддана часу я
ці ты
пытаньне
мы з розных сінтаксісаў
і мне так бракавала
кропкі
каб абярнуць складаную залежнасьць
ў асобны просты сказ

______

калі будзеш стаяць на прыпынку боль свой
кінь пад рагаты тралейбус а ня зможаш –
заплюшчы вочы
і не расплюшчвай іх аніколі
можа так стацца што і ты выбраў сабе
ня тую вОЛЮ     ведаеш, іх жа столькі
кожны б мог памыліцца

і сьпёка такая і галава ня варыць

паведамленьне прыйшло ад кагосьці былога
нешта там пра мае вочы
ня буду адказваць
дый навошта псаваць настрой чыёйсьці там жонцы

лепш павязу кніжкі
у псіха-нэўралягічны дыспансэр
хай сакратар бога паставіць за сёньня плюсік
я хачу зарабіць шмат плюсікаў і стаць
супэр-дзяўчынай
ад погляду якой вылечваліся б людзі
і не было бяздомных жывёлаў ....
ці так бывае?

да твару позіркі навакольных ліпнуць
маўляў
*– колькі ўжо можна, час быць сур’ёзьней*
*думаць пра хлеб наш надзённы*

і перамінаючы пальцамі мякіш я думаю
дакладней рашаю задачку:

колькі чорных сукенак можа зьмясьціць сэрца
пры ўмове што сэрца – маё

**паэма “фінскае гета”**

1.

мой сусьвет растварыўся
у шклянках з блакітным абсэнтам
лыжку вазьму і перамяшаю
забыўшы бабуліна
*таго б’юць хто мяшае*

2.

клічнікі клічнікі клічнікі
ніякіх косак і малых літар
ты
толькі зь вялікай
можна ў двукосьсі

3.

прыём прыём
як чуваць мяне
вы ўмееце карыстацца палачкамі
тады вазьміце адну і ўтыркніце сабе ў сэрца
а другую вышліце мне поштай

пры зьяўленьні цябе ў маім жыцьці
былі закранутыя ўсе жыцьцёва важныя ворганы
ня дзіўна што я засталася інвалідам
прапусьціце мяне без чаргі
да кавалачка шчасьця
я – ветэранка беларуска-фінскай вайны

4.

толькі чамусьці займеньнік *ён*
да займеньніка *ты* раўнуе мяне

5.

тут маладыя дрэвы жаўцеюць хутчэй

6.

халодна але не зіма
недзе ў суседнім доме напэўна сьпіш ты

7.

за сьпінай
кукурузнае лісьце жалюзі
кліча мяне да саламянага досьвітку
як заўжды кажу
не
дзякую
у гэтым чаце паведамленьні старэйшыя за
мяне
а значыць
трэба мяняць курс
і здаваць чаканьне як шклотару

# 21

вось так а палове на першую
ты памешваеш рыс
на адлегласьці шасьці мільярдаў рысінак
ад мяне і маёй выпітай кавы
ад акуляраў
стаміліся вочы
а ты на пустэчу злуесься
і пхаеш туды
      жанчынаў
  працу
 размовы ў барах
     сайты
       і    заадно мяне
а я не змяшчаюся
і тады ты адразаеш ад мяне нейкія часткі
ў надзеі не застацца сам-насам зь ёю
пустэчай тваёю

а што ж я ?
пакрамсаная ўпоперак і ўздоўж
         крычу
што              выжыць хачу

і дрэва        і дом       і далей па тэксьце

не, табе столькі ня зьесьці  пачуцьцяў
на іх у цябе ўжо алергія
адну за адной мяняеш краіны
калі нічога няма – нічога ня згубіш
так прасьцей
і ўтульней
і ніякіх табе перамоваў
па ўладкаваньні канфліктаў у сэктары сэрца
ведай сабе захоўвай нэйтралітэт
начапіўшы на галаву пакет
можна ўявіць сябе паветраным шарыкам
і болей не клапаціцца пра кісларод

**Няправільны Ліст**

ведаеш я трохі засмуцілася
думала вось зараз выйму тэлефон з кішэні і пабачу капэрту у левым ніжнім куце
сваёй каморкі. доўгачаканае смс.
не пабачыла
ні перад чытаньнем
ні пасярод
ні пасьля
напэўна ты напісаў мне ліст – як файна, зараз прыйду пачытаю
адкрываю пошту – там пуста
ну можа ты маеш рацыю – я ўжо дарослая дзяўчынка і сама магу справіцца
са сваімі перажываньнямі і жаданьнямі. ты маеш рацыю
і канешне я ўжо шкадую што напісала ўсё гэта бо ня маю ніякага права...
хоць, не, чакай – чаму ня маю? маю. як кожны чалавек маю права на годнасьць
і права на самавыяўленьне і права
выказвацца. таму пішу гэты ліст
прадчуваючы што адказам на яго будзе штось кшталту
– *ну што ты я не хацеў табе замінаць* і смайлік пакрыўджаны
ці – *ну што ты такое кажаш я ж з табой*

ведаеш, ты са мной
мала размаўляеш – ты адкупаесься гэтымі мілымі ліпкімі
фразамі – але сапраўдныя думкі пакідаеш не для мяне
для сябе для іншых але не для мяне.

калі цікава – я прачытала добра, людзі падыходзілі казалі дзякуй

але ты ж
і не сумняваўся ў гэтым (скажаш ты)
м-м-м (прамычу я)

прыйшоўшы ў пакой і не знайшоўшы там ад цябе ні радка ні нават смайліка –
я  засмуцілася
проста так і банальна засмуцілася
ведаеш як дзіцёнак бацькі якой не прыйшлі на ранішнік
ну да ладна зь кім не бывае праз гэта не паміраюць

а цяпер ты скажаш што гэта ня ліст а верш і што я добра выпендрылася
ці пачнеш вышукваць прапушчаныя коскі і іншыя знакі прыпынку

даўгі такі ліст атрымаўся
але я ня буду прасіць прабачэньня
за сябе і яго
табе пажадаю проста прыемнага ранку або добрага дня – калі ты
прачытаўшы ліст вырашыш што адказваць зараз не станеш і зробіш гэта як
вернесься з працы. а смс-кі доўгія ты ж не любіш пісаць – ну, бывае...
або добрага вечара – гэта калі ўжо зусім будзе завала і мой ліст “чароўным
чынам” дойдзе гадзін праз 15.
або дабраначы – калі зараз ты яшчэ сядзіш за кампом або табе ня сьпіцца
і ты шукаеш чагосьці нейкіх прыгодаў а тут раптам – мой ліст ...............................

**горад, куды так не хацелася ехаць**

там
жанчыны маўчаць свае вершы
але ўпотай усё ж паказваюць грыўкі
і праз іх разумныя акадэмічныя развжаньні
мне робіцца цёпла
а мужчыны выдыхаюць вершы акурат у мэтро
не чакаючы цішыні і ўвагі
ты
саладжавы і здавалася б не да месца
там – да месца
там сапраўды ёсьць рамантыка разгубленага шаленства
дзе адчуваеш сваю непатрэбнасьць і шахеразадства
тысяча і адна секунда ў абдымках
а потым (а зранку)
сабак напаткаю непадалёк ад гатэлю
яны будуць шукаць дарогу назад да твайго верша
адкуль зьбеглі мінулай ноччу
напэўна хацелі праверыць
ці сапраўды *ў гарах ужо зіма*

**after-мосэкэ**

*васпане каровін*,
ну як ты там пажываеш?
вядзеш вечарыны ў доме памерлых паэтаў?
а можа сумуеш і сам вышываеш вершы
насуперак дыягназам і прагнозам

я дабрал*а*ся нармальна
захапіла палову персіі і чвэрць кухні
у палоне цяпер маю тузін тубыльцаў
яны ўсе кажуць што я – добры сябра

ведаю – у імперыі ня так усё проста
тут на маёй радзіме таксама ня цукар
гарматаў зноў не хапае, порах – вільготны
жаўнеры скардзяцца на мясцовы клімат

вось заваюю для вас ваша любае мора
зьменім асфальт і круасаны на інжырныя дрэвы
зможаце там адсячы ўсім галовы
не крыўдуйце, гэта я так жартую
а калі сур’ёзна –
будзем хадзіць на шпацыр пасьля сьняданку
абяцаю: ніякіх вайсковых справаў
толькі віно і вашы любыя фрэйліны,
маскарады, турніры паэтаў..
здаецца, вы ўжо сьпіс склалі?

заўтра на перамовы – выспацца трэба
так што буду прыдумляць для вас разьвітальнае слова
трымайцеся цёпла
і запальваючы на балконе
адгадайце ў струмені дыму
абрыс *вашага напалеона*

я – воля
жыву на вуліцы ганны
сябрую з дзяўчынкай норай і хлопчыкам жэнем
зьбіраю каменьчыкі ўлетку
і вельмі люблю кукурузу
а ты?

і панядзелак, і мора
і жнівень мой самы чаканы сябра
таму што яго існаваньне – прыезду чаканьне і ад’езду чаканьне
такое як і ад цырка што на гастролях
парк з каруселлю куды пракаціцца прыходзяць
дзеці вясны лета і восені
я ж – наўзбоч назіраю
зіме тут ня месца
сябе ўяўляю часткаю сьвята аднак застаюся звонку
карусельнага поні трымаць за драўляную грыўку
хачу я ў самоце
ў самоце са студзеньскім абыякавым сонцам

# 30

......

бясконцыя карцінкі ў галаве пра тое што было
ніводнай пра цяпер
я засталася жыць у вёсцы на памежжы
паміж былым і выдуманым сьветам
але сабакі брэшуць вые вецер
і як герой самотны ў кіно
я падыму каўнер
схаваю падбародзьдзе ў шалік
і агароджы мэталёвы смак
мне стане даражэйшы за той позірк
..............................................
........................................

бярлог твайго цела адшукаць давялося запозна
быў час прачынацца і ісьці прэч з таго лесу
сумны агонь уядаўся мне пад лапаткі
адхінаў спадзяваньні і
рушыў глыбей у вантробы
так пазбаўляў цеплыні каб магла я запомніць
бяз полымя трэску мушу праз холад замерзнуць
я кідала вогнішчу хруст сваіх костак і
косткі
хутка згаралі пакідаючы пыл і попел
чужынцы вуглём на мне малявалі розныя гукі
казалі ёсьць іншыя якіх ты і ня чула
скрыгат па скуры праступаў і белыя плямы
па мне разьляталіся матылямі
неразуменьне лісьцем буяла на дрэвах
няўтульнасьць пускала карэньні і скоўвала рухі
ад сьценаў пустых адскоквала рэха і дзіды
у языку застрагалі мне адмаўляючы ў словах
так сталася што свабода у гэтых шыротах не выжывае
як у шмат якіх іншых гукі чужыя ёй шкодзяць
табе ж заміналі фіранкі і крумкачы ў парку
ці гэта ты прыдумляў сваім страхам такія імёны
даўжыні маіх валасоў усё адно не хапіла
ахаваць
прыцьміць бярлог твой ад сонца
быў час прачынацца і вяртаць цябе тваймy лесу
мне ж заставацца рыкам у мове мядзьведжай

# 34

ёсьць такія краіны
дзе мора ўсяго толькі слова
значэньне якога
даведваесься са слоўніка
тэлевізіі і расповедаў іншых
і хоць там ёсьць рэкі азёры і штучныя вадасховішчы
басэйны і лужыны
(як і ў краінах дзе ёсьць мора)
а вось мора няма

я таксама жыву ў краіне
дзе кожнае лета восень і нават узімку
да вуха падносяць ракавіну
і настройваюцца на радыёхвалю “мора”
каб забыцца што тут няма выйсьця
выйсьця да мора

раней
едучы ў тралейбусе
мама садзіла мяне на каленкі
і я гледзячы ў далячынь на аблокі
што шчыльнай таўсматай палоскай разьлягліся на небе
казала сабе і іншым – а вунь там мора

так у маёй краіне зьяўлялася мора

пах ягоны быў ужо блізка
водарасьці  соль і нагрэтая сонцам скура
ну і вядома ж кірлі
няхай і са сьметніка

зараз я ведаю
вызначаецца як безнадзейнасьць
гэта калі ня можна яе падмануць
яе – сьвядомасьць
калі аблокі на гарызонце гэта – аблокі
а мора...

а мора – недзе ня з намі

калі б я жыла ў годзе 1908
я была б эмэлін панхёрст і хадзіла б на дэманстрацыі
і мажліва знайшлі б у маіх грудзёх
нешта накшталт пухліны
жоўтай такой і з бронзы
і нейкі мужчына, разгарнуўшы назаўтра газэту
падумаў бы
яна проста апынулася ня ў той час
ды й ня ў тым месцы
наіўна спадзеючыся перарадзілася б я ў соню
і днямі перапісвала б раманы свайго геніяльнага мужа
перастаўляючы месцамі словы для мілагучнасьці
і словы б мяне любілі і шкадавалі і думалі б
яна ня ў тым месцы і ня ў той час апынулася

нарадзіўшыся тут і цяпер
я апранаю спадніцу ці нагавіцы
часам – радасьць
але збольшага – думку што
гэта ня час і ня месца
а той мужчына і тая газэта, той журналіст і ягоны рэдактар
шкадаваньне, словы, пухліны, раманы і геніі
і можа быць нават туга заціснуты корак

неяк ты запытаўся калі б мела два шансы на выбар
дзе і кім нарадзіцца
што б я абрала

абрала б адказ каб табе спадабацца
зьдзівіць але што тут прыдумаць
мне адмоўлена ў выбары
магу распавесьці праўду

быць селянінам кітайскім у стагодзьдзі дванаццатым
пасьвіць жывёлу і думаць пра небясьпеку
часам пра міску з лапшой гарачай

ня тое што ты – нью-ёрк пачатак стагодзьдзя джаз

выбар гэта
ня час і ня месца
а нешта больш дробнае
кротнае майму існаваньню

напрыклад – існаваньне тваё

**п'еса „The Portrait of the Artist as a Young Bitch"**

*no is not in dog's vocabulary*
Nora Gomringer

я твой верны сабачка
паддаюся дрэсуры
машу хвастом
магу нават стаць на заднія лапкі
ці хадзіць на дыбачках
я так люблю калі ты выводзіш мяне на шпацыркі
але глядзі каб я ня звыклася з прыемным
а то яшчэ чаго добрага ахамею
і забудуся на сваё месца
так, так, салодкія косткі толькі па сьвятах
а лепш абмяжуемся днём народзінаў
ты ўжо прыдумаў калі ён?
хоць можа так стацца што твае вялікія грандыёзныя пляны
ці праца будуць стаяць паміж намі
ня страшна
скручуся калачыкам на каберцы і буду чакаць
што? я зашмат тут скуголю? брашу? я сука?
а хочаш...
ты ня хочаш каб я была тваім верным сабачкам?
ты ня хочаш каб я была сабачкам?
ты пачаў улоўліваць нешта крыўднае ў слове *сабачка*
людзі на цябе скоса глядзяць?
кажуць гэта не гуманна трымаць мяне на ланцугу?

ты што, гэта абсалютнае глупства
мой ланцуг самае дарагое што падарыла жыццё
а дакладней ты
я цяпер назаўсёды застануся з табой
каму ж я яшчэ патрэбная
асабліва з распоратым жыватом
уууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууууу

(*нехта вые*)

*заслона*

# 40

што было зроблена прынесла праклён мне
што не пасьпела  звалілася цяжарам
калі ласка пералічыце мае пазванкі
можа і там выпала штосьці

колькі часу можна стаяць басанож на сьнезе
і прыдумляць абяцаньні
дадзеныя
някепскай пэўна дзяўчыне
някепскім напэўна табой

сьнег пад маімі нагамі ня тае
ён як і я

стаміўся

адпачывае

ў табе як у забытым фотаатэлье
гара гісторый пасярод пакою
старое крэсла наведвальніц чакала і кожная
хацела распавесьці *ты слухаў?* штосьці
засела ў горле мне
мо костка роспачы ці я раўную
да будучыні
быць пераплӑўленаю на пярсьцёнак
        ускрайкам жарсьці
дзе мяжа жаданьняў нечакана адарве
мяне
ад успамінаў паставіць у залежнасьць час
рэмінісцэнцыямі адлупцуе
і кленчыць у куток на бітым шкле пашле
жыць рэхам і калупаць пароcлую зямлю
як закапаная скарбонка
сакрэцік
з аскепкамі і знойдзенаю драбязой
такі ж каштоўны як і непатрэбны
ты

толькі што скошанай травой
пад маёй далоньню твае валасы
вяртаюць мяне ў радасьць і непакой
быць з табой
быць побач
вось
і адлегласьць і супакой

**казка пра эстонскую дзяўчынку**

пакуль няма нікога
спыніць машыну і кветак святаяньніку набраць
паставіць з іх палову ў вазу а палову – заварыць
і піць гарбату
адкрыць маленькі слоік з макам – і жменьку сыпнуць на далонь
лізнуць
прымружыць вочы
вільготным языком сабраць парэшткі
абтрэсьці рукі
пад нос мурлыкаць песьню
і чакаць

на беразе ні сына, ні каханых, ні бурштыну

it makes us a women's gang

заснуць прачнуцца вярнуцца з крамы
самотнай
пайсьці на шпацыр
дождж

——

ваўком прабягаю па вуліцах гэтага гораду
тут ня пахне нішто ня пахне мной і табой
не сьмярдзіць ні крывёй ні пяшчотаю
зь Перамогаю ты, ну а я... ну а я  ваўком
прабягаю па вуліцах мёртвага гораду
паласатым намотваю шалікам вечар на шыю
і жаданьне застацца пацягне канец свой на захад
а жаданьне сысьці – на ўсход
так завязваюць петлі на сэрцы
і барадаўкамі аб далонь памяці
труцца
і чаму каханкам патрэбная гэтая перамога
зь вялікай літары V
такая сабе дзяўчына
прадвесьніца і нашчадак вайны
што адным колерам сваіх валасоў
спальвае вантробы ненавіснага ёй майго пацэфічнага цела
і я проста мех з косткамі абцягнуты як барабан скурай
аб які яна адбівае заваёўныя маршы
ператвараючы мяне ў сваё рэха
і прапануе ня браць палонных
а гэта значыць
як мінімум давядзецца зьехаць
і вось я  ў іншым сусьвеце
зьмяніўшы не адну плянэту
на стале пабачу чырвоны сьцяжок

ты быў на парадзе мне не сказаўшы
выгляд зраблю што нічога не адбылося і паліто
апранаючы
заместа цыдулкі
пакіну гэтыя 165 словаў

**параўнальны аналіз**
**траекторыі падзеньня лісьця**
**што вырасла на дрэвах Бэрліну і Менску**

параўнальны аналіз
траекторыі падзеньня лісьця
што вырасла на дрэвах Бэрліну і Менску
быў праведзены намі напрыканцы жніўня
пры дапамозе вачэй і пачуцьцяў
асобы жаночага полу
ва ўзросьце
не маладым і ня сталым
у тым што акурат пасуе сядзеньню
самотна за столікам і назіраньню
за аб’ектам дасьледаваньня (*viz*. лісьцем)

у аднаго гэта робіцца вынікам справы
трэба шпарчэй даляцець
і палёт перажыць як непазьбежнае ліха
у гэтага лісьця вага ў пашане
хутчэй датыкнуцца б наждачнай шчакі травы
і гніць, парахнець, перамешваць пах свой сасьпелы з парэшткамі кветак
здабываючы паступова колер Той што іх нарадзіла
а за некалькі сот кілямэтраў (дакладней 1031)
іншае лісьце імкнецца схапіцца за вецер
каб як мага даўжэй затрымацца на вертыкалі сцэны
зьвярнуць на сябе ўвагу і прожылкамі пахваліцца
так дасканала сп*ле***це**нымі на **це***ле*
каб праз гэты празрысты экран сонца пасьпела сказаць

пра расклад гастроляў у гарадах іншых
і перадаць прывітаньне сымпатычнай лямпе дзённага асьвятленьня
каб позіркі з вокан насупраць, з-пад акуляраў, брылёў і проста з-пад веек
даляталі, краналі, сачылі і не адпускалі да самай апошняй хвіліны палёту
гэтае лісьце
што нават долу будзе выкладваць пазл з узору падгледзены ім на сьпіне матылька
а пошум машынаў і крокаў будзе зд*ава*цца *ава*цыямі
і так да заканчэньня сэзону

**маналёг адной кніжкі**

ты паставіў мяне кудысьці далёка ў шафу
паміж іншымі шмальцаванымі кніжкамі
каб я ведала сваё сапраўднае месца
і не рабіла тут зь сябе
прынцэсу
я расплюшчваю вочы і бачу
што мне стала цесна
недзе далёка ў шафе
сярод іншых таўстацелых кніжак
я чакаю дотыку тваіх пальцаў
таму што чытач гэта такі бог
ён выбірае з кім правядзе сёньня ноч
пашчасьціла нарадзіцца прыгожай – можаш стаць любай
ці нават настольнай
а не – прастаіш і пакрыесься пылам стагодзьдзяў
такі незайздросны лёс кніжны
цябе выбіраюць і набываюць потым мяняюць на іншыя
ці проста калекцыянуюць
але гэта нармальна таму што ты – рэч
і як кожная добрая рэч мусіш годна служыць:
забаўляць, адукоўваць, выхоўваць дзяцей ці гатаваць смачныя стравы
у адваротным выпадку
зьнясуць цябе ў макулатуру
ці растопяць крый божа печку
здадуць у бібліятэку і зробісься ты тады
публічнаю кніжкай бяз дому

якую бяруць на тэрмін за грошы
а потым вяртаюць ці недзе губляюць
у месцах грамадзкіх
такі небясьпечны лёс кніжны
але гэта нармальна таму што ты – рэч
таму што ты – слова
зь няправільным граматычным родам

**два сабакі**

сабака самотна ляжыць ля ўваходу
ў паўразбураны дом
сыплецца цэгла
ён сумна адводзіць позірк ад вокнаў
і глядзіць на мяне
я для яго шараговы мінак
і мела б хоць цэлую торбу
адборных і хрусткіх костак
роспач з вачэй не сышла бы ягоных
як не сышла я
ад дома
з якога даўно ўжо выехалі гаспадары
я гляджу на сабаку на дом на цэглу кволыя кветкі вакол
і бачу ў шыбе адсутнай адсутнасьць сябе

# 51

напэўна гэта зялёны колер тваёй курткі
што робіць цябе такім недасяжным
я спрабую ўявіць цябе ў чымсьці белым
і павесіць на шыю каралямі рукі
ты – заняты
            ты рамантуеш сваю завушніцу
я – на канцэрце
              слухаю напалеона орду
спрабую ўявіць як яму жылося ў парыжы
а пасьля цябе ў бяскроўна белым
па-за каўнерам
ты хочаш пакінуць мулкія справы
а я ўсё адно яго адгінаю
каб вецер
ці хто-небудзь іншы
змаглі
пакінуць
на шыі тваёй
сьлед вішні

**словы якіх няма**

ёсьць словы якіх няма
няма даўно і як яны гучаць ніхто ня можа ўзгадаць
яны былі калісь абавязкова
цяпер – маўклівы стогн
расьцягнуты на дроце вечнасьці
і да магілы не прыйсьці
і я тужліва абдымаю голаў
іх сёстры, праўнучкі, стрыечныя браты
хаваюць у сабе танклявасьць рысаў
якія разгадаць няможна ўслых
ускосныя вятры кранаюць шэптам вуха
іх мову мне не разабраць
як ім не зразумець жалобы позірк
пасьпешліва схаваны ў слоўнік
дзе на старонках размаітасьць слоў падмане
не мяне
я ведаю кагосьці не стае сярод тых літар
тых слоў якіх няма
але якія ёсьць

# 53

Так
Ты ТАК хочаш каб ува мне заставалася *гэтая*

Т-А-Я-М-Н-І-Ц-А

а я выцягваю думкі і ідэі быццам бялізну з пральнай машынкі
і прышпільваю на вяроўку – няхай прасохнуць і будуць сьвежымі
мне не шкада
мне ня сорамна
мне прыемна слухаць пошум мокрай тканіны мысленьня

не, яна не псуе краявід
не, гэта ня пошла
не, я НЕ разьдзімаю слана зь беднай мухі
быць таямніцай значыць сядзець і чакаць
навечна
падалей ад ветру і трысьнягу

дзякуй
буду звычайнай

# 54

плуг мой застраг
зь месца яго ня зрушыць
пачну ўпрошваць
    варажыць   злавацца   крыўдзіцца
    і прасіць прабачэньня
але куды мне да цьвёрдасьці плуга
пагляджу на суседнія гоні
жыта з валошкамі ці лён у рамонках
і толькі маё неўзаранае поле ня хоча нікога прымаць
і толькі маё неўзаранае поле – асфальт
ад якога адскоквае насеньне
нясецца прэч ветрам і забывае дарогу сюды
а я стаю і чакаю што вырасьце нешта
нешта зь нічога
вакол ужо пожні
і пожняй мне не прайсьціся ўвосень

кепскі аратай
кепскае поле
і плуг  кепскі
зь мяне

# 55

часам здараецца
каханкі мусяць сыходзіць
а ты – заставацца
прымушаючы сябе навучацца
болей іх не заводзіць
быць вельмі сур’ёзнай
не ўсьміхацца тварам прыемным
і час надыходзіць калі сябе адчуваеш
ў самоце і адсутнасьці іншага цела
замяняючы яго коўдрамі, шалікамі і абдымкамі з дрэвам
якое ты ахінаеш так патаемна каб ніхто не падумаў
што не ў сабе
а потым сесьці ў аўтобус
калі за шыбаю нейкія людзі
будуць махаць і дасылаць пацалункі з паветрам
камусь хто сядзіць за табой
а ты будзеш глядзець і на нейкую хвілю
уявіш
што гэта цябе праводзяць і табе дасылаюць
пацалункі
якія з трампліна далоні ныраюць ў паветра і батэрфляем плывуць да вакна

хоць тое што насамспраў засталося ад падарожжа
чарговая мова на гадаваньне

## Зьмест

прысак